# УЛАДЗІМІР СЯДУРА

Літаратуразнавец, мастацтвазнавец, крытык, празаік, грамадскі дзеяч, кандыдат філалагічных навук (1941, Мінск), заслужаны прафесар Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута (1976, ЗША), доктар філалогіі (ЗША) Уладзімір Сядура нарадзіўся 11(24) снежня 1910 г. на ўскраіне Мінска Старажоўцы (цяпер адна з цэнтральных вуліц горада). У друку пачаў выступаць у 1929 г. пад сваім прозвішчам. З 1942 г. друкаваўся пад псеўданімамі: Уладзімір Глыбінны, Макар Караткевіч, Кастусь Старажоўскі, Віктар Шабуневіч, Вяч. Дняпроўскі, У.Свіславіцкі, Д-р Банадысь Чарнецкі і інш. Некаторыя кнігі і большасць артыкулаў на рускай, англійскай, французскай і нямецкай мовах падпісваў сваім прозвішчам.

Бацька Уладзіміра, Ілля Іванавіч Сядура (н. у 1877 г.[*]), паходзіў з карэнных мінчукоў. Нягледзячы на цяжкую хваробу (эпілепсія), шмат працаваў, быў вядомым у акрузе шаўцом, майстэрствам якога яшчэ пры акупацыі, у 1918-м, захапляліся нават немцы. Маці, Марыя Майсееўна (у дзявоцтве — Шабан), нарадзілася ў 1889 г. у вёсцы Лагаўская Слабада Мінскага раёна ў беззямельнай мнагадзетнай сялянскай сям'і. Бацькі Марыі не мелі магчымасці пракарміць усіх дзяцей і таму яшчэ падлеткам аддалі яе ў заможную яўрэйскую сям'ю служкаю.

Пасля нараджэння сына Сядуры пераехалі на суседнюю Старавіленскую вуліцу, дзе пражылі да пачатку 2-й сусветнай вайны. На трэці дзень бамбардзіровак Мінска «старэнькая, з падпоркамі хатка на беразе Свіслачы»[†] згарэла разам з бібліятэкай, якую У.Сядура пачаў збіраць яшчэ ў 1920-я г., будучы студэнтам Мінскага Белпедтэхнікума.

Дзіцячыя гады Уладзіміра прайшлі надзвычай актыўна. Як і Антон Адамовіч, ён вучыўся пры нямецкай і пры польскай акупацыях, а пачатковую чатырохгодку (Мінскае чатырохкласнае вучылішча) скончыў ужо пры савецкай уладзе (1923). Шмат часу праводзіў Уладзімір на роднай Свіслачы. Лавіў рыбу, купаў салдацкіх коней і гэтак зарабляў сабе на прысмакі. Не цураўся з галадухі залезці ў чужы сад ці агарод (голад — не цётка), што прылягалі да ракі. Выязджаў са старэйшымі хлопцамі рыбачыць за горад з абавязковым начлегам ля вогнішча... Праз свайго сябра, бацька якога працаваў

[*] Значная частка аўтабіяграфічных звестак узята: Нацыянальны архіў Беларусі. Ф. 460. Воп.1 Спр. № 3.
[†] Грахоўскі С. Хто ж ён, Сядура-Глыбінны? ЛіМ. 1991. 13 верас.

турэмным наглядчыкам, яшчэ ў маленстве зведаў, што такое турэмны тэатр…

У 1923 г. паступіў у вядомую 15-ю Мінскую сямігодку, у якой вучыліся Андрэй Александровіч і некаторыя іншыя будучыя пісьменнікі. Ды і працавалі ў школе А.Міцкевіч, С.Замбржыцкі, Сокал — настаўнікі з залатой плеяды выкладчыкаў “царскасельскага ліцэя” — Мінскага Белпедтэхнікума. На ўсё жыццё засталася ў вучня памяць пра настаўніка беларускай мовы і літаратуры Кузьму Стрыгуна[‡]: «Першае, што ён зрабіў, гэта была парада кожнаму з нас неадкладна набыць тры кнігі: «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» М.Янчука[1], «Выпісы з беларускай літаратуры» М.Гарэцкага, У.Дзяржынскага[2] і Каравая[§], «Гісторыя беларускай літаратуры» М.Гарэцкага…»[**] У будынку былой семінарыі (знаходзілася недалёка ад дома Сядураў), дзе было шмат спартыўных збудаванняў, Уладзімір паляпшаў сваю фізічную падрыхтоўку. Не абмінаў і “семінарскую” бібліятэку, што цудам захавалася яшчэ ад былога часу. Прысутнічаў на спектаклях Уладзіслава Галубка, якія наладжваў першы Народны артыст рэспублікі. Па магчымасці не прапускаў і нядзельныя кінасеансы. Не адарваць было хлопца і ад шахмат. Пазней зацікавіўся мастацтвам і дасягнуў у ім адпаведных поспехаў. Навучыўся іграць на гітары, якую падарыў малому бацька. Акунуўшыся ў музыку, захапіўся і радыё: самастойна сабраў радыёпрыёмнік… Сапраўды незвычайнае, «бурнае» дзяцінства…

У 1927 г., пасля заканчэння сямігодкі, У.Сядура паспяхова здаў экзамены ў Мінскі Белпедтэхнікум, дзе пачаў вучыцца разам з В.Мараковым, Р.Крушынам і будучым сваім “энкавэдысцкім хроснікам” А.Кучарам…

Тады ж “беларускі Бялінскі” (гэтак жартам называў Уладзіміра загінулы ў канцлагеры таленавіты празаік Сяргей Русаковіч) стаў сябрам “Маладняка”. «Сярод настаўнікаў [педтэхнікума] (як успамінаў У.Сядура ў сваёй кнізе “Паэта з Божай ласкі”. — ***Л. М***.) былі ведамыя ў беларускім руху або навуковай актыўнасцю гэткія асобы, як Язэп Лёсік, Міхась Грамыка, А[лесь] Бялькевіч, Юлі Круталевіч[3], [Аляксандр] Круталевіч і іншыя…”[††]

Мінскаму Белпедтэхнікуму Уладзімір Сядура аддасць даніну праз пятнаццаць гадоў, ужо будучы галоўным рэдактарам першага

---

[‡] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[§] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[**] Глыбінны У. Паэта з Божай ласкі. Нью Ёрк, 1979. С. 3.
[††] Глыбінны У. Паэта з Божай ласкі. Нью Ёрк, 1979. С. 5.

ілюстраванага беларускага часопіса “Новы шлях” (выходзіў у Рызе ў час вайны):

*«Трэба адзначыць велізарную ролю Менскага Беларускага Педагагічнага тэхнікума ў выраблення літаратурных кадраў. Гэта была свайго роду літаратурная Акадэмія, у якой праходзіла навучанне шмат беларускіх пісьменнікаў, [сярод іх] Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Максім Лужанін, Паўлюк Трус, Рыгор Казак, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Антон Адамовіч, Сяргей Дарожны, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Сяргей Гайка, Франц Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, Язэп Лешчанка (М.Кавыль), Уладзімір Гуцька (У.Дудзіцкі) і інш. На літаратурныя вечары і дыспуты, ладжаныя літаратурным гуртком*[‡‡]*, сюды прыходзілі і выступалі многія знаныя пісьменнікі і крытыкі... Памятаецца вечар, калі ўзвышэнец Антон Адамовіч горача спрачаўся з прыхільнікамі «Маладняка», пазней БелАППа, Я.Ліманоўскім і А.Звонакам... Гэта асабліва падагравала зацікаўленасць да літаратуры і штурхала многіх маладых студэнтаў брацца за пяро і выпрабоўваць свае літаратурныя таленты. З Менскага Белпедтэхнікума выйшла шмат маладое беларускае інтэлігенцыі, тае эліты, якая пазней станавіла галоўную турботу органаў НКВД і амаль уся была высланая ў канцлагеры»*[§§].

Былы студэнт магчыма, апошняга “нацдэмаўскага” курса педтэхнікума Міхась Кавыль праз 60 гадоў успамінаў: “Я сядзеў за партай, слухаў лекцыі пра беларускую мову Антона Лёсіка, пра беларускую літаратуру — Алесі Александровіч[4], пра “до-рэ-мі-фа-соль” — Яфімава[5], а пазней спяваў у хоры У.Тэраўскага, запісаўся ў літаратурны гурток, дзе часта спрачаліся Алесь Кучар, Максім Лужанін і студэнты старэйшых класаў: Ул.Сядура, Л.Калюга, С.Астрэйка і інш.”[***].

Адначасова (1928—1929) Уладзімір Сядура наведваў курсы краязнаўства, на якіх выкладалі вядучыя прафесары таго часу (У.Адамаў[6], М.Бліядуха[7], М.Грамыка) і працаваў настаўнікам (да паступлення восенню 1930 г. у Беларускі дзяржаўны універсітэт) у адной з “лікбезаўскіх” школ горада.

---

‡‡ Старшынёй літаратурнага гуртка ў той час быў В.Маракоў, якога У.Сядура не згадвае ў сваёй аўтабіяграфіі, нягледзячы на тое, што «Уладзімір (Сядура. — ***Л. М.***) пачаў друкаваць свае першыя літаратурныя спробы ў літаграфаваным часопісе «Крыніца», што выдаваўся Валерыем Маракоўым». (Юрэвіч Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997). Не згадвае, магчыма, таму, што яшчэ ў 1931 г. у артыкуле «Пра «Вяршыні жаданняў» Вал. Маракова» (Маладняк. 1931. № 1) сцвярджаў, што «Маракову неабходна ўключацца ў штодзённую практыку рабочага класа... Ён павінен усвядоміць неабходнасць... адпаведнасці задачам рабочага класа ў сацыялістычным будаўніцтве...»

§§ Глыбінны У. Паэта з Божай ласкі. Нью-Ёрк, 1979.

*** Кавыль М. Казённы дом і далёкая дарога // Запісы. 1992. № 20. С. 66.

Першыя публікацыі У.Сядуры з’явіліся ў афіцыйным друку[†††] ўлетку 1929 г., калі ён пачаў выступаць (адразу актыўна) як літаратурны крытык. Аналізаваў творчасць або рэцэнзаваў зборнікі Алеся Звонака[‡‡‡]: «Галоўным матывам <…> зборніка (“Буры ў граніцы”. — ***Л. М.***) з’яўляецца адчуванне новага, светлага, радаснага жыцця ў нашай краіне, таго вялікага будаўніцтва, якое носіць імя сацыялізму… У далейшым вельмі пажадана было б, каб Звонак пазбавіўся такіх, не зусім пасуючых да асобы савецкага пралетарскага паэты, «лирических» аб’ектаў (як С.Ясенін. — ***Л. М.***)»; Паўлюка Шукайлы: «Верш Паўлюка Шукайлы «Акорды дзён» з'яўляецца яскравым прыкладам макулатурна-халтурнае творчасці. Здаецца, ва ўсёй савецкай літаратуры за апошні год не з’явілася ў друку такога “образчика» чванска-дзяляцкай “творчасці…”[§§§]; Сымона Хурсіка: «Нязначныя дэфекты затушоўваюцца агульнай вобразнасцю і прыгожасцю мовы, значнымі мастацкімі сродкамі, якія сведчаць аб вялікіх творчых магчымасцях Хурсіка. Праўда, апавяданні <…> зборніку на сённяшні дзень ужо згубілі значна ў сваёй актуальнасці, бо сёння ў вёсцы асяродкавай праблемай, адлюстроўванню і трактоўцы якой у мастацкай літаратуры належыць першае месца, з'яўляецца праблема калектывізацыі…»[****]; Міхася Лынькова: «Класавага аналізу насельніцтва мястэчка Лынькоў не даў», але «быт, псіхаідэалогія ўзятага асяроддзя замаляваны вельмі калярова…»[††††]; Рыгора Мурашкі: «Аўтар часта збіваецца з мастацкага паказу на голую публіцыстыку…»[‡‡‡‡]; Андрэя Александровіча: «[Паэт] паказвае нам ворагаў будаўніцтва, якія гатовы кожную хвіліну падарваць нашу працу…»[§§§§]; Змітрака Астапенкі: «З шляху прымітывізму і схематызму, шляху найменшага супраціўлення паэту (і наогул усёй літаратурнай моладзі) неабходна сысці на шлях найбольшага супраціўлення, на шлях дыялектычна-матэрыялістычнага паказу нашай творчай сучаснасці»[*****]; Міхася Багуна: «У Багуна выпадае канкрэтны «действительный, живой» носьбіт социялістычнае працы, яе суб’ект — рабочы-ўдарнік”[†††††]; Валерыя Маракова: “Валеры Маракоў, як паэт, адбіваючы ў сваёй творчасці зрухі прамежных

---

[†††] Наогул, першыя літаратурныя вопыты У.Сядуры, як адзначалася ўжо, з'явіліся ў 1928 г. у студэнцкім літаграфаваным часопісе «Крыніца».
[‡‡‡] Савецкая Беларусь. 1929. 29 верас.
[§§§] Маладняк. 1930. № 3.
[****] Полымя. 1930. № 5—6.
[††††] Тамсама.
[‡‡‡‡] Маладняк. 1930. № 8—9.
[§§§§] Полымя. 1930. № 9—10 і ў інш. выданнях.
[*****] Маладняк. 1930. № 12.
[†††††] Тамсама.

сацыяльных пластоў пад уздзеяннем пралетарскае рэвалюцыі, павінен усвядоміць неабходнасць карэннага перавыхавання сябе шляхам сталай і безупыннай працы над пераробкай свае сацыяльнае прыроды, усяго строю свае псіхаідэалогіі ў напрамку адпаведнасці задачам рабочага класа ў сацыялістычным будаўніцтве” [‡‡‡‡‡] (аднак нават пасля такой “станоўчай” рэцэнзіі з’яўляецца артыкул С.Куніцкага, у якім ён піша, што рэцэнзія У.Сядуры на зборнік “Вяршыні жаданняў” “мае грубыя палітычныя ляпсусы, няправільныя ўстановы, няправільныя ацэнкі…”[§§§§§]); Уладзіміра Стэльмаха[8]: «Неабходна больш глыбокае паглыбленне ў жыццё, у класавую барацьбу, асвятленне яго святлом марксісцка-ленінскай навукі…»[******]; Тодара Кляшторнага: «Тут <…> сюсюканне проста пераходзіць у трацкісцкі авангардызм (камсамол, а не партыя — «на чале сусветнага імкнення»). Супраць такое тэндэнтнае творчасці пра камсамол, трацкісцкага сюсюкання ў ягоны бок, заместа глыбокага, сапраўды мастацкага паказу камсамола, ягонага змагання пад кіраўніцтвам партыі, у беларускай паэзіі неабходна абвясціць самую рашучую барацьбу»[††††††]; Юлія Таўбіна: «Узнікла неадчэпнае жаданне звярнуць увагу на некаторыя моманты ў тваёй творчасці, менавіта на тыя бокі, якія знаходзяцца ў той ці іншай меры супярэчнасці з развіццём пралетарскай паэзіі… Сацыялізм нясе з сабою небывалы росквіт творчае індывідуальнасці і яе выяўленне ў мастацтве, а не заміранне індывідуальнасцей, як гэта ўяўляюць розныя буржуазныя пісакі за мяжою і іх аднадумцы ў нас…»[‡‡‡‡‡‡]

Вось якраз «небывалы росквіт творчае індывідуальнасці» надыдзе ў Сядуры праз дзесяць гадоў, калі ён апынецца сярод «розных буржуазных пісак»…

Відаць, трэба згадзіцца з Лявонам Юрэвічам наконт першых крытычных выступленняў У.Сядуры ў друку. У асноўным гэта былі артыкулы “сугучныя сваёй ваяўнічасцю агульнай настраёвасці тагачаснай крытыкі”[§§§§§§].

З 1931 г. У.Сядура — член БелАПП, узначальвае яе маладзёжнае крыло (разам з Б.Мікулічам і С.Ліхадзіеўскім). Але разгарнуцца моладзі не далі. На другім курсе пасля некалькіх выклікаў у вядомыя кабінеты (не затуманіў вочы энкавэдыстам і

---

[‡‡‡‡‡] Маладняк. 1931. № 1.
[§§§§§] ЛіМ. 1932. 30 крас.
[******] Маладняк. 1931. № 2.
[††††††] Маладняк. 1931. № 5.
[‡‡‡‡‡‡] Маладняк. 1932. № 4.
[§§§§§§] Юрэвіч Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 263.

вялікі артыкул У.Сядуры «Камсамол у беларускай паэзіі”[*******], у якім аўтар заклікае да «рашучага павароту тварам да камсамольскай тэматыкі») і адмовы ад “сумеснага супрацоўніцтва” Уладзімір прыкмеціў, што за ім сочаць[†††††††], пасля чаго не стаў выпрабоўваць лёс і перавёўся вучыцца ў Маскву.

*Справка.*

*Дана <…> т. Седуро Вл.И.* (25 жніўня 1935 г. — ***Л. М***.) *в том, что он в осенний набор 1930 г. был зачислен в число студентов Минского Высш[его] Пед[агогического] Инст[итута] на лит[ературно]-лингв[истический] факультет (кр[итико]-тв[орческая] секц[ия]). Окончив два (I и II) курса вышеназванного ф-та, т. Седуро просил разрешить ему перевод в учебн. завед. г. Москвы. Приказом директора института от 2 сентября 1932 г. за № 2, его просьба удовлетворена и из числа студентов Мин. пед. инст. т. Седуро исключен.*

*Декан литфака* (подпіс неразборлівы. — **Л. М**.)

Хоць Юрка Віцьбіч у лістах да П.Глебкі (у пачатку 1933 г.) і «ацаніў» У.Сядуру як крытыка «на бязлюддзі», але НКВД быў іншай думкі, і вясной 1933 г. Уладзіміра Сядуру ў Маскве адшукалі, арыштавалі і этапавалі ў Мінск. Праз колькі месяцаў знаходжання ў “менскай скляпенні” (выраз У.Сядуры) яго асудзяць на тры гады пазбаўлення волі. Усяго ў 1933 г. энкавэдысты арыштавалі не менш за сорак пісьменнікаў. У асноўным гэта была моладзь, якая рабіла толькі першыя крокі. Большасць з іх былі асуджаны да высылкі ў Сібір, але некаторых, ад якіх у адказах на допытах даволі часта гучала “не”, загналі ў канцлагеры. Разам з З.Віталіным і М.Кавылём сярод “канцлагернікаў” апынуўся і Уладзімір Сядура. Спачатку яго этапавалі ў Новасібірск, потым у канцлагер пад Марыінскам, а праз год перакінулі на БАМ. На апошнім бываў і Я.Кіпель. Пазней ён пра гэту “камсамольскую будоўлю веку” пісаў:

*“Працавалі штодзённа па 10—11 гадзінаў, а марш да працы і назад займаў каля дзвюх… Былі месяцы, калі праца ішла 24 гадзіны. Калі нормы выраблялася, давалі кіло хлеба, крыху салодкай вады і гаршчок супу… Калі норма не выконвалася, пайка змяншалася, а*

[*******] Маладняк. 1932. № 1.

[†††††††] Паводле некаторых звестак, сачылі і за «пішучымі» студэнтамі МВПІ: В.Мараковым, З.Пiвараравым, Ю.Таўбіным, П.Хатулёвым, С.Шушкевічам…

*потым садзілі ў карцэр. Вытрымаць такое жыццё было цяжка: шмат хто не вытрымаў, калечыў сябе, каб быць знятым з калоны. Людзі адбівалі пальцы, пілі мыла, рэзалі вены. Частай з'явай былі самагубствы... Адзенне лагернікаў не паддавалася апісанню — гэта клубок рыззя, на бушлатах латка на латцы, ногі абмотаны дзесяткамі анучаў, брудныя валасатыя твары, слязлівыя чырвоныя вочы, нейкі дзікі тупы погляд, згорбленая постаць і вельмі павольныя рэакцыі на ўсё вонкавае..."*‡‡‡‡‡‡‡

У жніўні 1935 г. з вельмі падарваным здароўем Уладзімір Сядура быў вызвалены раней тэрміну і падаўся «адаграявацца» ў Крым, але, не знайшоўшы там працы, галадаў, начаваў на вуліцах, і таму быў вымушаны прыехаць у небяспечны для яго Мінск...

Пра нечаканую сустрэчу з У.Сядурам у гэты час расказаў праз шмат гадоў С.Грахоўскі:

«Тады па Савецкай вуліцы (цяпер праспект Незалежнасці. — ***Л. М***.) *хадзіў трамвай, які заварочваў на вуліцу Энгельса, выходзіў на плошчу Свабоды і ўніз па вуліцы Бакуніна, праз мост — на Старажоўку.*

*Неяк летам іду я па вуліцы, а міма праходзіць трамвай з адчыненымі вокнамі. Гляджу, Валодзя Сядура сядзіць. Я памахаў яму, і на наступным прыпынку ён выскачыў. Мы сустрэліся, абняліся, як сябры, і я запрасіў яго да сябе. Тады я толькі атрымаў пакойчык у «засыпаным» доме па вуліцы Цнянскай, якраз насупраць дома быту, дзе ўжо канчаўся горад. Дома ў мяне былі выдатныя грушы, і мы адзначылі імі сустрэчу...»*§§§§§§§

Атрымаўшы адмову ў сталічнай прапісцы, без якой немагчыма было атрымаць і працу, Уладзімір вырашае падацца ў Гомель. Нарэшце ён змог уладкавацца настаўнікам у адной з сярэдніх школ. Але неўзабаве ненадзейнага настаўніка звальняюць, і У.Сядура зноў вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну. Спачатку (вясна 1936 г.) ён едзе ў Краснадар, дзе ўладкоўваецца настаўнікам рускай мовы ў вучэбным камбінаце № 219, а ўлетку падаецца ў Растоў, дзе выкладае рускую мову ў СШ № 3. Пры першай магчымасці, у жніўні 1936 г., У.Сядура (разам з З.Астапенкам, які працаваў непадалёку, у Новарасійску) прыязджае ў Маскву (дзе ўжо знаходзіўся Ю.Таўбін) і, схаваўшы судзімасць, паступае вучыцца ў Маскоўскі ўніверсітэт. 4

‡‡‡‡‡‡‡ Кіпель Я. Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998.

§§§§§§§ 28 лютага 1982 г. У.Сядура ў лісце да С.Грахоўскага напіша: «Мне да сягодняшняга дня ўспамінаецца той выпадак, калі я, наведаўшы цябе, з'еў цэлую талерку грушаў. Удзячнасць за тыя грушы і сумленне не пакідаюць мяне...».

лістапада 1936 г. двух з “мсціслаўскай тройцы”, З.Астапенку і Ю.Таўбіна, арыштоўваюць і этапуюць у Мінск да сяброў-нацдэмаў. Для З.Астапенкі гэты этап скончыцца канцлагерам, а для Ю.Таўбіна — расстрэлам (разам з Т.Кляшторным і Я.Нёманскім). 30 кастрычніка 1937 г. Юлі Таўбін навечна застанецца адным з самых маладых расстраляных беларускіх пісьменнікаў…

У.Сядуру энкавэдысты тады “прамаргалі”, і ён працягваў вучобу, адначасова працуючы ў СШ № 188 (да восені 1937 г.) і СШ № 125. Увесну 1938 г. над ім зноў пачалі збірацца хмары, і Сядура, не чакаючы сваёй чаргі на “бясплатнае харчаванне”, з’ехаў на Каўказ, потым у Крым. У жніўні 1938 г. паехаў у Ленінград, дзе зноў, стаіўшы судзімасць, паступіў у Ленінградскі педагагічны інстытут імя М.Пакроўскага (у Нацыянальным архіве Беларусі захаваўся студэнцкі білет № 586 на імя Уладзіміра Сядуры). Адначасова ён наведвае лекцыі ў Ленінградскім універсітэце і, як заўсёды, працуе — выкладае рускую мову ў адной з ленінградскіх школ. Пры любой магчымасці наведвае тэатры, музеі, гістарычныя помнікі…


Место печати
(подпись владельца)
Ленгорлит 1 4.37.
Тип. 2 ЛАШ. З. 570 т. 1500 ДП

РСФСР—НКП
Ленинградский [redacted] педагогический институт им. М. Н. Покровского
Студенческий билет № 586
Фамилия
Имя
Отчество
Время поступления 1/X 1938 г.
19 г.
Факультет
Директор института
Билет действит. до 1/X 1939 г.
Дата выдачи билета 14/X 1938 г.

Студэнцкі білет У. Сядуры. 1938 г.



„Все студенты, обязаны сдавать экзамены за полный курс каждого предмета, вошедшего в учебные планы, а также сдавать зачеты по практическим работам после того, как данный курс прослушан студентами полностью.

Экзамены по сложным предметам, имеющим самостоятельные разделы производятся по частям, но не чаще чем два раза в год.

Экзамены производятся профессорами и доцентами (ведущими соответствующие лекционные курсы), утвержденными в этом звании.

...Ввести во всех высших учебных заведениях единый студенческий билет и единый матрикул (зачетная книжка). В матрикул заносятся все предметы, обязательные для прохождения, и запись о сдаче экзаменов и зачетов.

Отмечать в матрикуле сдачу экзаменов и зачетов и проставлять отметки имеет право только профессор, проводивший экзамен, и доцент, принимавший зачет.

...Установить во всех высших учебных заведениях следующие степени оценки успеваемости студентов (отметки): 1) неудовлетворительно; 2) удовлетворительно; 3) отлично“

(Из постановления СНК Союза ССР и ЦК ВКП(б) от 23/VI—1936 г. „О работе высших учебных заведений и о руководстве высшей школой“).

Место печати

В.Седуро

(личная подпись студента)

РСФСР — НКП

Ленинградский Педагогический Институт им. ПОКРОВСКОГО

ЗАЧЕТНАЯ КНИЖКА №

Фамилия, имя, отчество Седуро, Владимир Ильич

Факультет (отделение) языка и литературы

Поступил — (переведен) на III курс из Московского пед. ин-та

Зам. директора по учебной части

Декан факультета

22/IX 38

(дата выдачи зачетной книжки)

Заліковая кніжка У.Сядуры. 1938 г.

Пра тое, як вучыўся студэнт У.Сядура, сведчаць наступныя два дакументы:

*“Выписка*

*Из приказа № 21 по Ленингр[адскому] Госуд[арственному] Педагог[ическому] институту:*

*Вынести благодарность за ценную работу [“Пушкин и Ренессанс”]* (прадстаўленую на конкурс студэнцкіх работ. — ***Л. М***.) *и серьезное отношение студенту Седуро В. И.”*

*“Характеристика.*

*Седуро, Владимир Ильич, 1910 г. рождения, состоял студентом Лен. Гос. Педагогического Института им. Покровского в период с 1 сентября 1938 г. по 1 сентября 1939 г.*

*За время пребывания в Институте т. Седуро показал отличную успеваемость и добросовестное отношение к занятиям.*

*Тов.Седуро зарекомендовал себя дисциплинированным студентом и активным общественником.*

*По отзыву доц. Б.П.Городецкого*[********]*, в семинаре которого т. Седуро работал в течение года, он проявил себя как талантливый студент и начинающий научный работник. Самостоятельная исследовательская работа т. Седуро, посвященная творчеству А.С.Пушкина, обнаруживает в авторе большую начитанность, умение пользоваться источниками и твердые методологические установки.*

*Тов. Седуро может работать в Педвузе.*

[********] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

*Декан ф-та — Коротаев”.*

Пасля года вучобы Уладзімір здаў экстэрнам выпускныя экзамены і атрымаў дыплом, пра які сведчыць наступная даведка:

*Справка*

*Гр. Седуро В.И. с 23 сентября 1938 г. по 13 июля 1939 г. состоял в числе студентов-экстернов лит.ф-та Ленингр. Гос. Пед. Института... Выполнил учебный план... Сдал государственные экзамены за 4 года обучения. Государственной квалификационной комиссией гр. Седуро В.И. присужден диплом...*

*Директор института* (подпіс неразборлівы)
*13 июля 1939 г.*

Адначасова з вучобай У.Сядура працаваў настаўнікам у школе № 28, адкуль і быў накіраваны ў аспірантуру:

*“Справка-характеристика.*

*Выдана настоящая Седуро В.И. в том, что он с 10 декабря 1938 г. по 5 марта 1939 г. работал в 28-й средней школе Василеостровского района г. Ленинграда в качестве преподавателя русского языка и литературы. К своим обязанностям относился добросовестно, проявил себя как способный педагог, обладающий педагогическим тактом, любящий свой предмет, имеющий наклонность к углубленной, вдумчивой литературной работе... Является хорошим организатором учащихся...*

*Справка выдана для предоставления в ВУЗ на предмет поступления в аспирантуру.”*

Аднак адразу ў аспірантуру У.Сядура пасупаць не спяшаўся і яшчэ каля года працаваў настаўнікам у СШ № 34. Увесну 1940 г. ён звольніўся (не склаліся адносіны з дырэктарам школы, заўзятым антыбеларусам) і паехаў працаваць у Архангельск, дзе і закончыў навучальны год. Улетку ён прыехаў да бацькоў у Мінск (праз Ленінград), але, вырашыўшы больш “не нерваваць” мясцовы НКВД, неўзабаве ад’язджае ў Маскву “шукаць новага шчасця”. Там ён атрымаў накіраванне на працу ў г. Глазаў (Удмурцкая АССР), адкуль (“паглядзеўшы на гэтую дзікасць” — выраз У.Сядуры. — ***Л. М.***) амаль адразу ўцёк у Мінск. На гэты раз яму пад выглядам студэнта

Маскоўскага ўніверсітэта, які прыехаў у акадэмічны адпачынак, удаецца прапісацца. Неўзабаве ён стаў аспірантам. Адначасова з вучобай працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце павышэння кваліфікацыі кадраў народнай адукацыі (да лютага 1941 г.) і ў Навукова-даследчым інстытуце школ Беларусі, а таксама выкладаў рускую мову на Вышэйшых настаўніцкіх курсах. У маі 1941 г. ён экстэрнам вытрымаў экзамены за аспірантуру.

*«Выписка из приказа № 12 по АН БССР*
*от 20 мая 1941 г.:*

*Согласно решения квалификационной комиссии при президиуме Белорусской Академии Наук от 15 мая 1941 г. о присвоении научной степени кандидата филологических наук гр. Седуро В.И. как выполнившему индивидуальный план и защитившему научную диссертацию на тему: «Горький как источник русской литературы», на основании имеющегося практического стажа работы в высших учебных заведениях СССР в качестве преподавателя русской литературы присвоить гр. Седуро В.И. также звание доцента истории русской литературы.*

*Президент БелАН Академик К. Горев».*

22 чэрвеня 1941 г. для кандыдата філалагічных навук У.Сядуры пачалося з арышту. Як і іншых «падазроных» асоб (чытай — цудам ацалелых на волі дзеячаў культуры), яго арыштоўваюць і прывозяць у “амерыканку”. На наступны дзень «асобам» прачытаюць: «Вы абвінавачваецеся ў контррэвалюцыйнай прапагандзе ды ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі, паводле артыкулаў 72 і 76 Крымінальнага кодэксу БССР…»[††††††††] Праз тры дні, калі вязняў вялі па этапе, недзе пад Мінскам, ноччу У.Сядура ўцёк, вярнуўся да бацькоў. У горадзе ўжо гучала нямецкая мова…

З ліпеня 1941 г. У.Сядура — літаратурны супрацоўнік выдавецкага аддзела, які быў арганізаваны пры Мінскай гарадской управе і адным з арганізатараў якога быў ён сам. Са студзеня 1942 г. накладам 10 000 асобнікаў пачаў выходзіць першы ў Беларусі літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс “Новы шлях” (не блытаць з аднайменным выданнем аддзела прапаганды Генеральнага камісарыята), якому, як пісаў у сваёй кнізе С.Жумар, “по качеству печати и профессиональному оформлению не было равных в

[††††††††] Глыбінны У. Вялікія дарогі. Грэнд Рэпідз, 1997. С. 60.

Беларуси” [‡‡‡‡‡‡‡‡]. Галоўным рэдактарам новага выдання кіраўнік Выдавецкага аддзела А.Адамовіч прызначыў У.Сядуру, намеснікам — А.Радзюка (паэта Алеся Салаўя), тэхнічным радактарам К.Езавітава[9] (нягледзячы на цяжкія адносіны з У.Сядурам). Адзначым, што “Новы шлях” рэдагавалі ў Мінску, і таму ў Рызе, дзе часопіс друкаваўся, галоўны рэдактар бываў наездамі. Потым У.Сядура напіша ва ўспамінах: “Цяжкасці безупынных пераездаў з Менска ў Рыгу і назад <…> адымаюць у мяне шмат сілаў і энергіі, і пры маім слабым, падарваным катаргай і бяздольным жыццём, здароўі, надта перашкаджаюць маёй творчай працы”. Свой часопіс У.Сядура называў “орган[ам] супраціву акупантам”. І нездарма. На старонках “Новага шляху” друкаваліся антынямецкія вершы У.Дудзіцкага, С.Новіка-Пеюна[10], А.Салаўя, антыакупанцкія п’есы Ф.Аляхновіча, лірыка М.Сяднёва, В.Таполі і іншых.

З пачаткам выхаду “Беларускай газэты” (11 ліпеня 1942 г.) У.Сядура ўзначаліў яе прамысловы аддзел і, нягледзячы на груз “Новага шляху”, стаў адным з самых актыўных яе аўтараў. Выходзяць яго грунтоўныя артыкулы па гісторыі Беларусі, гісторыі беларускага тэатра, мовазнаўстве, краязнаўстве, мастацтвазнаўстве, аб творчасці беларускіх кампазітараў (А.Туранкова[11], У.Тэраўскага, М.Шчаглова), літаратуразнаўчыя матэрыялы… Выданне ўпершыню змяшчае матэрыялы пра рэпрэсаваных пісьменнікаў (В.Ластоўскага, У.Галубка, У.Жылку, М.Сяднёва), сталінскіх канцлагерах, “гняздзе нацдэмаў” — Мінскім Белпедтэхнікуме, Я.Купалу («Волат беларускага мастацкага слова»), М.Багдановіча, Ф.Аляхновіча… Як пісаў у вышэй згаданай кнізе С.Жумар, “В.Седуро, как и К.Езовитов, безусловно выделялся среди своих коллег знаниями, интеллектом, многообразием и разноплановостью публикаций, совершенством языка и стиля».

У канцы 1943 г. У.Сядура падрыхтаваў да выхаду унікальную кнігу «Беларускае мастацтва», у якой «даваўся абраз развіцця беларускае архітэктуры, малярства, разьбярства, графікі, скульптуры <…> на працягу доўгай гісторыі культурнага развою на Беларусі». Аднак ваенныя падзеі спынілі яе выданне. Па тых самых прычынах не ўбачылі свет «Жыве Беларусь» і «Беларускі тэатр»[§§§§§§§§]. Апошняя кніга з'яўляецца па сутнасці энцыклапедычным выданнем: у ёй прасочана амаль уся гісторыя беларускага тэатра.

У канцы чэрвеня 1944 г. У.Сядура прымаў удзел у II Усебеларускім кангрэсе ў Мінску. Захаваўся фотаздымак, на якім

---

‡‡‡‡‡‡‡‡ Жумарь С. Оккупационная периодическая печать на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1996. С. 37.

§§§§§§§§ Пасля ўдакладненняў выйдзе ў 1955 г. на англійскай мове.

пасля заканчэння чарговага пасяджэння на руінах Мінска разам сфатаграфаваліся яго дэлегаты: Хведар Ільляшэвіч, Тодар Лебяда, Алесь Салавей, Паўлюк Сірата (Валянцін Таўлай), Масей Сяднёў, Уладзімір Сядура, Сяргей Хмара, Андрэй Чэмер (А. Анішчык).



У. Сядура з сябрамі-пісьменнікамі – дэлегатамі кангрэса. Мінск. 1944 г.

У пачатку ліпеня 1944 г., уцякаючы ад расправы «за сотрудничество», У.Сядура разам з маці выехаў у Нямеччыну, адкуль («нешта трэба было рабіць, каб хутчэй выпутацца з цянётаў ваеннае завірухі»*********) падаўся «на разведку» ў Чэхію (дзе таксама рабіў спробы надрукаваць сваю манаграфію «Беларускі тэатр»). Неўзабаве 24 снежня 1944 г. атрымаў загад вярнуцца ў Нямеччыну. Але і ў лагеры для перамешчаных асоб У.Сядура вёў актыўную літаратурную дзейнасць…

Недзе ў канцы 1940-х г. У.Сядура сустрэў у Нямеччыне сваю былую добрую знаёмую, беларускую дзяўчыну. Неўзабаве згулялі вяселле… Праз год нарадзілася дачушка Зося (у 1964 пісьменнік прысвеціць ёй кнігу «На берагах пад сонцам»[12]).

********* Глыбінны У. Вялікія дарогі. Грэнд Рэпідз, 1997. С.124.



У.Сядура. Рыга. 1944 г.

У кастрычніку 1951 г. У.Сядура пераехаў у ЗША, дзе актыўна прычыніўся да «рэпрэзентацыі беларускай навукі на амерыканскім кантыненце»††††††††.

Тут, у Амерыцы, і пачнецца праца над аўтабіяграфічным раманам-хронікай «Вялікія дарогі»‡‡‡‡‡‡‡‡‡ (асобным выданнем выйдзе толькі пасля смерці аўтара, у 1997 г.), які пісьменнік прысвеціць свайму сябру Змітраку Астапенку (адзначым, што ў рамане падаецца і адна з першых і найбольш верагодных версій гібелі паэта). У «Вялікіх дарогах» праз жыццёвы шлях галоўнага героя ахоплены апошнія трыццаць гадоў гісторыі Беларусі. У рамане сустрэнем шмат знаёмых прозвішчаў: Ф.Аляхновіч, Р.Астроўскі[13], М.Багдановіч, З.Бядуля, У.Галубок, Ул.Дудзіцкі, Ул.Жылка, У.Казлоўскі, В.Ластоўскі, А. Лёсік, С.Новік-Пяюн, В.Таполя, Ул.Хадыка... Некаторыя дзеячы беларускай культуры дадзены пад псеўданімамі: Дземех Астаповіч (Змітрок Астапенка), Касьян Елізараў (Кастусь Езавітаў), Стась Савіцкі, Альгерд Собаль (у сувязі з вельмі суб'ектыўнай ацэнкай жыццёвага лёсу апошніх двух асоб расшыфроўку іх псеўданімаў аўтар гэтага артыкула пакідае чытачу).

У сакавіку 1953 г. канадская газета «Беларускі эмігрант» друкуе паведамленне пра «выступленне д-ра Сядуры і сп. А.Адамовіча на амерыканскай навуковай канферэнцыі» Мюнхенскага інстытута па вывучэнні гісторыі і культуры СССР. На канферэнцыі У.Сядура

†††††††† Беларускі свет. 1984 № 16. С. 8.
‡‡‡‡‡‡‡‡‡ Глыбінны У. Вялікія дарогі. Грэнд Рэпідз, 1997.

выступіў з вялікім дакладам на тэму «Беларуская культура і таталітарызм». «Амерыканцы былі глыбока ўзрушаны, калі дакладчык перайшоў да наступнага этапа змагання партыі з нацыянальна-вызвольным рухам на Беларусі, вынікам якога было знішчэнне бадай усіх прадстаўнікоў нацыянальна-адражэнчай плыні ў беларускай літаратуры. 500 без аднаго знішчаных маладнякоўцаў, бальшыня ліквідаваных палымянцаў і ўзвышанцаў прагучэлі моцным абвінаваўчым актам супраць крамлёўскай тыраніі і тэрору ГПУ-НКВД». У канцы гэтага ж года У.Сядура выступае на Украінскім навуковым з'ездзе у Нью-Ёрку. Гэты даклад прафесара Сядуры даследчыкі потым назавуць «належным навуковым адказам на беспадстаўныя спробы перахапіць нашую культурную спадчыну».

У 1955 г. выходзіць работа У.Сядуры, якая «здабыла найвышэйшую ацэнку й выйшла на першае месца сярод усіх прац вывучэння СССР» — «Достоевсковедение в СССР». Гэта кніга стала пачаткам шэрагу навуковых даследаванняў творчасці славутага пісьменніка. Так, у 1957 г. на англійскай мове выйдзе «Дастаеўскі ў літаратурнай крытыцы» (стала падручнікам амаль ва ўсіх універсітэтах Амерыкі і Еўропы), у 1961 г. па-французску — «Найноўшыя з'явы ў савецкай дастаеўскаведзе», у 1975 г. на англійскай мове «Вобраз Дастаеўскага ў Расіі сёння» і ў 1977 г. — «Дастаеўскі ў расійскім і міжнародным тэатры». Даследаванні У.Сядуры прысвечаныя творчасці Дастаеўскага, прыцягнулі ўвагу нават савецкіх вучоных. Так, у часопісе Інстытута рускай літаратуры АН СССР «Русская литература»§§§§§§§§§ (1959) у артыкуле А.Бруханскага чытаем: «Большая работа В.Седуро напоминает согласно теме сборник «Советские театры», но отличается от его большим привлечением фактического материала». У.Сядура быў і адным з заснавальнікаў «Таварыства па вывучэнні Ф. М. Дастаеўскага».

У 1958 г. Інстытутам вывучэння СССР (ЗША) была выдадзена кніга У.Сядуры «Доля беларускай культуры пад Саветамі» (у 1959 г. выйшла і на нямецкай мове), дзе аўтар паслякастрычніцкі час гісторыі Беларусі разбівае на пяць перыядаў, «якія вызначаліся галоўнымі зменамі ў галіне нацыянальнай палітыкі савецкае ўлады <...>:

1. Перыяд адноснага рэнесансу /1920 — 1929/.

2. Трагічны перыяд змагання партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам і нацыянальнымі ўхіламі /1930 — 1940/.

§§§§§§§§§ Русская литература. 1959. № 1.

3. Перыяд вымушаных уступак нацыянальнай культуры ў часе вайны /1941 — 1945/.

4. Перыяд жданаўскай рэакцыі і сталінскай кананізацыі /1946 — 1952/.

5. Перыяд замены сталінскай кананізацыі г. зв. “калектыўным кіраўніцтвам” партыі /ад 1953 і да нашых дзён/”.

Здаецца, У. Сядурам можна паспрачацца толькі адносна характарыстыкі другога перыяду гісторыі Беларусі. Відаць, больш правільна было б гаварыць не пра “змаганне партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам”, а пра ЗНІШЧЭННЕ партыяй беларускай эліты, мозгу нацыі, яе інтэлектуальнага генафонду — на гэты перыяд прыпадае чатыры з пяці хваляў арыштаў.

Сёння мы ўжо можам прадоўжыць перыядызацыю У.Сядуры:

6. Перыяд “хрушчоўскай адлігі” /1957 — 1965/. Закрануў ён і Беларусь. Найбольш характэрным паказчыкам гэтага перыяду з’яўляецца выхад шэрагу твораў, кніг рэпрэсаваных пісьменнікаў, з’уленне артыкулаў пра жыццёвы і творчы шлях пакутнікаў, успамінаў самых трывушчых — ацалелых.

7. Перыяд застою, або перыяд “ціхай”, але сталай і нязменнай палітыкі антыбеларусізацыі /1966 — 1986/. За дваццаць гадоў у выніку поўнай русіфікацыі ўсёй сістэмы адукацыі колькасць насельніцтва, якое тады гаварыла па-беларуску, значна зменшылася.

8. Перыяд другога адноснага рэнесансу, або перыяд дэмакратызацыі (галоснасці) /1987 — 1994/. Упершыню пачалі выходзіць творы пісьменнікаў-эмігрантаў. Колькасць беларускіх школ паступова павялічваецца (упершыню за мінулыя 60 гадоў).

9. Перыяд адраджэння таталітарызму і, як вынік, татальнага знішчэння дасягненняў перыяду дэмакратызацыі /ад 1995 і да нашых дзён/.

У кнізе У.Сядуры «Доля беларускай культуры пад Саветамі» ўпершыню даецца і найбольш поўны агляд культурнага жыцця Беларусі ад паслякастрычніцкага часу да пачатку 1950-х г. Калі б да кнігі зрабіць імянны паказальнік, ён налічваў бы не адну сотню дзеячаў беларускай культуры, якія амаль усе былі знішчаны ў часы сталінскага генацыду.

У 1959 г. У.Сядура ўзначаліў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнселерскага політэхнічнага інстытута ў г. Троі (Troy).



У.Сядуры. ЗША. 1960-я г.

У 1963 г. « Беларускае Выдавецкае таварыства» выдала асобнай кніжкай гістарычны нарыс У.Сядуры «Смаленшчына — адвечна беларуская зямля», які аўтар пісаў на працягу амаль дваццаці гадоў. У кнізе праглядваецца гісторыя Смаленска ад «перыяду паганскае старавечнасці» да пачатку 1960-х г. Расказваецца пра «выдатных смаленцаў — сыноў беларускага народнага генія» прафесара В.Дакучаева[14] («заснавальніка навейшага кірунку навукі глебаведы»), М.Пржэвальскага[15] («сусветна вядомага даследчыка Цэнтральнай Азіі»), слыннага ва ўсім свеце кампазітара М.Глінку[16] і інш. Робіцца выснова «аб адзінстве беларускае народнае песні ад беларускае Горадзеншчыны да самых усходніх і паўночных абшараў Смаленшчыны». Сцвярджаецца і на прыкладах пацвярджаецца, што «ўсе вучоныя, нават расейскай арыентацыі, заўсёды ў навуковых працах сцвярджалі належнасць Смаленшчыны да Беларусі».

У 1964 г. БАЛНЦ (Беларуска-Амерыканскі навуковы цэнтр) выдаў аўтабіяграфічную кнігу У.Сядуры «На берагах пад сонцам». Апавяданне «Цудоўны твар» і аповесць «Да родных берагоў» не толькі значна ўдакладняюць лёс самога пісьменніка, але і высвятляюць белыя плямы ў лёсе некаторых іншых літаратараў 1930-х г.

У 1972 г. у Лондане выдавецтва «Божым шляхам» выпусціла кнігу «На святой зямлі» (IN THE HOLY LAND) У.Сядуры — «беларускага паломніка, які пасля 799 гадоў пасля Св.Еўфрасінні прайшоўся ейнымі шляхамі па гарачай Палестынскай зямлі ў пошуках тае ж

духоўнае і жыватворчае вады, што вадзіла і водзіць ці аднаго паломніка з усяго свету да Хрыстовае крыніцы».

Выходзяць грунтоўныя артыкулы У.Сядуры па творчасці Яўгенія Маркава (Новое русское слово. 1972. 5 марта), Міхаіла Булгакава (Современник. 1973. № 25. Торонто), Восіпа Мандэльштама (Новое Русское Слово. 1974. 20 января. Нью-Йорк), Аляксандра Салжаніцына (Современник. 1976. № 32). Рэнселерскі політэхнічны інстытут надаў У.Сядуру (праз год пасля выхаду прафесара ў адстаўку) годнасць заслужанага прафесара (1976).

У 1983 г. выйшла апошняя кніга У.Сядуры «Пад лебядзіным знакам» (пра жыццё Максіма Багдановіча на Беларусі ўлетку 1911 г. у Ракуцёўшчыне). Як сведчыць кніга, паэт ужо ў юнацкім узросце прадбачыў «вялікую будучыню ў адраджэнні краю і народа». У лісце да С.Грахоўскага (датаваны 28 лютага 1982 г.) У.Сядура адносна аповесці «Пад лебядзіным знакам» тлумачыў: «пісьменнікі баяцца назваць людзей, з якімі ён (М.Багдановіч. — **Л.М**.) сустракаўся, я пішу праўду аб тым плённым леце...»



У.Сядура. 1980-я г. (?).

У канцы 1980-х гг. здароў'е У.Сядуры пагоршылася. Неўзабаве інсульт прыкаваў пісьменніка да ложка.

У XXVII томе «Записок русской академической группы в США» (С. 368—370) В.Крупіч пісаў:

*«Первое мое знакомство с автором серьезных публикаций было книжным и «заочным» — по его тогдашним опубликованным работам. Нам, студентам-аспирантам американского университета, недоставало пособий именно такого характера. Скоро у меня состоялась первая встреча с «живым» автором, который оказался мягким, приятным и вежливым человеком. Мы подружились на почве нашей общей любви и интереса к великому русскому гению — Ф.М.Достоевскому. На последующих встречах в Америке и в Европе мы продолжали дискуссию на ту же тему, обсуждая новые серьезные публикации, делились планами на будущее. Светлая, гуманная и богатая творческая личность Владимира Ильича Седуро навсегда останется в моей памяти.*

*Да будет ему легка американская земля!»*

Уладзімір Сядура памёр 14 сакавіка 1995 г. Рускія даследчыкі развіталіся з беларускім вучоным, гісторыкам, пісьменнікам, публіцыстам. Развіталіся з прафесарам і беларусы ў Амерыцы, Англіі, Аўстраліі, Еўропе. Толькі на Бацькаўшчыне, дзеля якой Уладзімір Сядура ўсё жыццё працаваў, не прагучала ў той час ні слова.

---

[1] **ЯНЧУК Мікалай Андрэевіч** [29.11.1859, в. Карніца Канстанцінаўскага пав. Сядлецкай губ., цяпер Бяла-Падляскае ваяв., Польшча — 6.12.1921], даследчык літаратуры, фальклору, літаратар, кампазітар. З сям'і селяніна-аднаасобніка, царкоўнага старасты. Скончыў рускую школу ў Карніцы (1871), Маскоўскі ўн-т (1885). Працаваў у Маскве настаўнікам, памочнікам бібліятэкара, хавальнікам Дашкаўскага этнаграфічнага музея, в. а. сакратара аддзела этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це. З 1901 узначальваў музычна-этнаграфічную камісію таварыства.

Кр.: *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 6—2 і г.д.

[2] **ДЗЯРЖЫНСКІ У.**, літаратурны крытык. Даследаваў творчасць М. Багдановіча і інш.

[3] **КРУТАЛЕВІЧ Юлій,** брат педагога Аляксандра Круталевіча; выкладаў у МБПТ.

[4] **АЛЕКСАНДРОВІЧ Алеся Іванаўна** [12.7.1904, Мінск — 25.8.1947, Мінск**],** педагог, літаратуразнавец, сястра паэта А.Александровіча. Скончыла БДУ (1928), працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР (1934—36), пасля 2-й сусветнай вайны ў Літаратурным музеі Я.Купалы. Склала хрэстаматыі па бел. літаратуры для ІІІ, IV, VII класаў. Пахавана на Усходніх могілках.

Кр.: *БП*, т. 1.

[5] Друкаваўся ў час. "Маладняк" (арт. "Літаратура і класы". 1927, № 6—8). У канцы 1920-х — пачатку 1930-х г. выкладаў у МБПТ і, верагодна, у БДУ або МВПІ.

[6] **АДАМАЎ Уладзімір Уладзіміравіч** [12.6.1875, Санкт-Пецярбург — 1937 (?)], батанік, прафесар, адзін з першых даследчыкаў расліннага свету Беларусі. Выпускнік Пецярбургскага ўн-та (1899). Працаваў у навуковых установах Беларусі: загадчык аддзела Мінскай балотнай доследнай станцыі, секцыі Беларускага аддзялення Усесаюзнага Інстытута прыкладной батанікі, кіраўнік геабатанічнай экспедыцыі Наркамзема БССР. Заснавальнік батанічных садоў БДУ і Вялікалятчынскага (каля Віцебска). У канцы 1920-х г. выкладаў на курсах краязнаўства. Хутчэй за ўсё, рэпрэсаваны.

[7] **БЛІЯДУХА Мікалай Фёдаравіч** [10.12.1878, Ігумен Мінскай губ., цяпер райцэнтр Чэрвень Мінскай вобл. — 13.1.1935], бел. геолаг, акадэмік АН БССР (1928), прафесар, загадчык кафедры геалогіі БДУ, паралельна выкладаў на курсах краязнаўства. У 1903 скончыў Санкт-Пецярбургскі інстытут. У 1929—35 дырэктар інстытута геалогіі і гідрагеалогіі *АН* БССР. Арганізатар прац па геалагічнай здымцы і выведцы карысных выкапняў у БССР.



Бліядуха М. Ф.

[8] **СТЭЛЬМАХ Уладзімір Мацвеевіч [**15(28).7.1910, в. Бушмічы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. **—** 27.1.1974, Мінск], тэатральны дзеяч, драматург. Пасля сканчэння сямігодкі (1926) паступіў у МБПТ. З 1928 вучыўся ў студыі БДТ-2. З 1931 акцёр ТРАМа, з 1937 **—** ТЮГа. З пачатку 2-й сусветнай вайны ў Чырвонай арміі, з 1943 у эвакуацыі. З 1945 дырэктар Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, з 1947 дырэктар Беларускага тэатра імя Я.Купалы, з 1956 **—** Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. З 1966 нам. старшыні прэзідыума праўлення Беларускага тэатральнага аб’яднання. Член СП Беларусі з 1965. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Пахаваны на Паўночных могілках.

[9] **ЕЗАВІТАЎ Кастусь** [Канстанцін Барысавіч; псеўданім і крыптанімы: Кастусёнак; К-нак; К. Е.; К. Ез.; 5(17).11.1893, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 23.5.1946, Мінск, НКВД], паліт., грамадскі, ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. Удзельнік 1-й сусветнай вайны; скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча (Петраград). У 1917—18 нам. старшыні і сакратар ваеннага аддзела Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік 1-га Усебеларускага кангрэса 1917. Арыштаваны ЧК у студз. 1918; 19.2.1918 яму ўдалося ўцячы. Удзельнік абвяшчэння БНР; народны сакратар ваенных спраў у першым урадзе БНР. У сак. 1919 выдаваў у Гродне газ. «Бацькаўшчына». У 1919 начальнік канцылярыі Міністэрства беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы. Кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. З 1921 у Рызе; займаўся асветніцкай дзейнасцю і публіцыстыкай; удзельнічаў у выданні час. «На чужыне», «Беларуская школа ў Латвіі», газ. «Голас беларуса». У 1923—24 дырэктар Люцынскай дзяржаўнай беларускай гімназіі (Латвія). Старшыня Беларускага камітэта ў Латвіі. У 1924 арыштаваны латвійскімі ўладамі за бел. дзейнасць. Пазней арыштоўваўся яшчэ 3 разы. У 1929 пераклаў з латышскай мовы драму А.Упіта «1905» (рукапіс захоўваецца ў Вільнюсе). Падчас 2-й сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі бел. школ. На 2-м Усебеларускім кангрэсе (чэрв. 1944, Мінск) абраны ў склад БЦР. Выехаў у Берлін. Затрыманы савецкай ваеннай контрразведкай «Смерш» 26.4.1945. Памёр у Мінску ў турэмным шпіталі падчас следства.

Кр.: *ЭГБ*, т. 3; *БП*, т. 6 і інш.



**Кастусёнак (К. Езавітаў) 1893 - 1945 г.**
Пачатак літ. дзейнасьці 1922 г. у сувязі з рухам "Першакрокаўцаў".
(Здымак пасьля выхаду з латвійскай турмы ў 1932 г.)



**Беларускі Парнас:**
Зьлева на права: П. Сірата (В. Таўлай), Тодар Лебяда, Хведар Ільляшэвіч, Андрэй Чэмер, Сяргей Хмара, Алесь Салавей, Уладзімер Сядура і Масей Сяднёў. (1944 г. Менск).

[10] **НОВІК-ПЯЮН Сяргей Міхайлавіч** [сапр.: Новік; 14(27).8.1906, в. Лявонавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 26.8.1994, Мінск], паэт, празаік. У 1918—24 вучыўся ў Нясвіжскай гімназіі; у 1925—26 на бел. настаўніцкіх курсах у Вільні. У 1925 апублікаваў свой першы верш «Не бядуй» у час. «Студэнцкая думка» (№ 4). У 1926 стварыў у роднай вёсцы хор (з 1963 народны) і тэатр. Арганізаваў гурток ТБШ, бел. бібліятэку і тайныя школы ў Лявонавічах і наваколлі, за што ў 1926 высланы польскімі ўладамі ў Свеце над Віслай. У 1927—31 супрацоўнік віленскага час. для дзяцей «Заранка». Пасля вяртання ў родныя мясціны ў 1931 зноў арыштаваны і высланы пад нагляд паліцыі ў Слонім. Разам з жонкай Людмілай у 1938—39 выдаваў польскамоўную газ. „Gazeta Słonimska“. Чарговы раз арыштаваны польскімі ўладамі ў сак. 1939; зняволены ў турме ў Баранавічах. Вызвалены пасля прыходу Чырвонай Арміі. У 1939—40 працаваў у сістэме народнай адукацыі, потым дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея. У чэрв. 1941 разам з І.Стаброўскім выратаваў экспанаты музея, схаваўшы іх на ўскраіне горада. Падтрымліваў сувязі з партызанамі. У 1943 арыштаваны СД; адпраўлены ў лагер смерці Калдычэва. 4.7.1944 падчас расстрэлу групы вязняў (600 чалавек) паранены, прыкінуўся мёртвым, што і выратавала. Пасля вызвалення Слоніма працаваў дырэктарам музея. 14.12.1944 арыштаваны органамі НКДБ; 24.3.1945 ваенным трыбуналам асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены на Калыму. Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд з 5.11.1958 да 18.12.1958. У 1959 вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясвіжы; з 1960 — у Мінску. Выступаў у бел. рэспубліканскім друку. Некаторыя песні на словы Н.-П. лічацца народнымі, найбольш вядомыя з іх — «Зорачкі» і «Над Шчарай» («Слонімскі вальс»). Пісаў на бел., рускай, польскай мовах і на эсперанта. Член СП Беларусі з 1984. Асабовая справа Н.-П. № П-5614 з фотаздымкам захоўваецца ў архіве УКДБ Гродзенскай вобл.

*«Калі прадстаўнік белапольскай улады афармляў яго пашпарт, то прапанаваў Сяргею запісацца палякам, а ён адказаў: «Пішыце беларусам. Я нацыянальнасцю не гандлюю». Яму адмовілі і ў графе «нацыянальнасць» зрабілі прочырк. Ён заўжды заставаўся беларусам і быў адданы бела-чырвона-беламу сцягу. Насіў беларускія сімвалы. Са значкамі Пагоня і бела-чырвона-белы сцяжок ён трапіў у фашысцкі лагер… З гонарам прышпільвае Сяргей Міхайлавіч да свайго пінжака бела-чырвона-белы значок і сёння. Як сімвал таго, што ён ніколі не здрадзіў сваёй Бацькаўшчыне.*

*…Многія вершы і песні Новіка-Пеюна маюць надзвычайны лёс, бо складзены на нарах за кратамі…»* (Барыс С. Малады дзядок // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1991, № 7—8).


Новік-Пяюн С. М. Канец 1930-х г.

[11] **ТУРАНКОЎ Аляксей Яўлампавіч** [9(21).1.1886, Санкт-Пецярбург, Расія — 27.9.1958, Мінск], кампазітар. З сялянскай сям'і. У 1911—14 вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі. З 1918 жыў у Гомелі, загадваў музычнай секцыяй гарадскога аддзялення народнай асветы. З 1934 у Мінску. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940). У час 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 22.7.1944 у Мінску па адрасе: вул. Савецкая (цяпер праспект імя Ф.Скарыны), д. 60, кв. 8. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 23.6.1945 як «памагаты нямецкіх акупантаў» да 10 гадоў ППК і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Этапаваны ў адзін з канцлагераў ГУЛАГа, дзе, па сведчанні А.Царанкова, ледзь не загінуў ад голаду. Вызвалены, хутчэй за ўсё, да 1947. Аўтар опер «Кветка шчасця», «Яснае світанне», балета «Лясная казка», музыкі да многіх драматычных спектакляў («Пінская шляхта» і інш.). Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 21.10.1959. Асабовая справа Т. № 14878-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Туранкоў А. Я.

[12] Кніга выдадзена ў выдавецтве Я. Пятроўскага.

**ПЯТРОЎСКІ Ян** (н. 20.1.1905, Слуцк), бел. рэлігійны дзеяч, выдавец, мемуарыст, перакладчык. З мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў школе Свята-Троіцкага манастыра (1915—16), прыходскай школе (1916—19). Скончыў гімназію ў Вільні, служыў у польскім войску. Пасля сканчэння ў 1930 Тэалагічнай школы метадыстаў у Клярысаве быў пастарам у Варшаве, у 1932—36 у Дзярэчыне (цяпер Зэльвенскі р-н). З 1936 служыў пастарам у Варшаве, адначасова быў сакратаром Польскай гадавой канферэнцыі метадыстаў. 7.9.1939 пераехаў у Вільню. Са жн. 1941 служыў у Берліне, арыштаваны гестапа, але вызвалены. З сак. 1945 у Аўстрыі, з восені 1953 у ЗША працягваў дзейнасць у якасці прапаведніка метадысцкай царквы. У 1962—66 выдаваў рэлігійны час. «Сьветач хрыстовае навукі». Выдаў у перакладзе на бел. мову 6 кніг дыялогаў старажытнагрэчаскага філосафа Платона (1966—81), кнігу нямецкага філосафа В.Гумбальта «Унутраная форма мовы» (1989). Складальнік і выдавец «Класічнага грэцка-беларускага слоўніка» (кн. 1—2, 1983—85), а таксама англа-бел. і бел.-англійскіх слоўнікаў (1993), якія ўключаюць больш за 10 тысяч слоў. У 1977 стварыў у ЗША Бел. харытатыўна-адукацыйны фонд, мэта якога — пашырэнне ў краінах Захаду ведаў пра Беларусь, садзейнічанне развіццю бел. мовы і культуры. Аўтар успамінаў на бел. мове (т. 1—3, 1988—97), якія з'яўляюцца важнай крыніцай па гісторыі Зах. Беларусі і бел. дыяспары.

Кр.: *ЭГБ*, т. 6—1; *БП*, т. 5.

[13] **АСТРОЎСКІ Радаслаў Казіміравіч** [25.10.(6.11).1887, фальварак Заполле Слуцкага пав. Мінскай губ. — 17.10.1976, ЗША], грамадска-паліт.

дзеяч, публіцыст. За ўдзел у рэвалюцыі 1905—07 выключаны са Слуцкай гімназіі. У 1908 паступіў на матэматычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Як удзельнік рэвалюцыйных хваляванняў у лют. 1911 арыштаваны. Быў зняволены ў турмах Пецярбурга і Пскова. Пасля вызвалення жыў у бацькоў на Пружаншчыне пад наглядам паліцыі. Аднавіўся ва ун-це ў сак. 1912, у студз. 1913 перавёўся ў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т і скончыў там фізіка-матэматычны ф-т. Працаваў настаўнікам у Чанстахове (Польшча) і Мінску; у 1915—17 выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 — камісар Часовага ўрада па Слуцкім павеце; арганізатар і дырэктар Слуцкай беларускай гімназіі (вер. 1917). Выступаў супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дэлегат 1-га Усебеларускага з'езда (Мінск, снеж. 1917). Выступаў у прэсе за ідэю незалежнасці Беларусі. Удзельнік Слуцкага паўстання 1920. З 1921 у Зах. Беларусі. Дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924—36). У другой палове 1920-х г. рэзка змяніў свой паліт. курс. У лют. 1924 стаў ініцыятарам стварэння праўрадавага прапагандысцкага Польска-Беларускага Таварыства. Пасля яго распаду ў 1924 супрацоўнічаў з КП(б)Б і КПЗБ, курыраваў падпольны камсамол у сваёй гімназіі. У 1925—26 віцэ-старшыня ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, старшыня Таварыства беларускай школы, Беларускага дабрачыннага таварыства, дырэктар Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні, праз які праходзілі сродкі ДПУ на фінансаванне Грамады. У 1926 уступіў у КПЗБ. У студз. 1926 арыштаваны польскімі ўладамі. На судовым працэсе супраць Грамады апраўданы. З 1928 прапагандаваў ідэі супрацоўніцтва з польскай санацыяй. Настроіў супраць сябе многіх дзеячаў заходнебел. нацыянальнага руху, якія ў маі 1934 — снеж. 1935 правялі над ім грамадскі суд. Пад псеўданімам «Эра» друкаваўся ў бел. кнігах-календарах, газ. «Родны край» (1933—36). У 1936 вымушаны пакінуць Вільню і пераехаць у Лодзь. З пачаткам вайны актыўна супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Увосень 1941 прыехаў у Мінск, працаваў у цывільнай адміністрацыі; пасля быў бургамістрам у Смаленску, Бранску, Магілёве. Са снеж. 1943 прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады; адзін з галоўных арганізатараў у чэрв. 1944 2-га Усебеларускага кангрэса. Пасля вайны жыў у Зах. Германії, з 1956 у ЗША. Кіраўнік і ідэолаг «бэцээраўскай» плыні бел. эміграцыі.

[14] **ДАКУЧАЕЎ Васіль Васілевіч** [1.3.1846, с. Мілукава Смаленскай губ. — 8.11.1903, Санкт-Пецярбург], вядомы геолаг і глебазнаўца, заснавальнік рускай школы глебазнаўства. Стварыў вучэнне аб глебе як аб адмысловым прыродным целе, адкрыў асноўныя заканамернасці генезісу і геаграфічнага размяшчэння глеб.

[15] **ПРЖЭВАЛЬСКІ Мікалай Міхайлавіч** [31.3(12.4).1839, с. Кіборы Смаленскай губ. — 20.10(1.11).1888, Каракол (Пржэвальск)], рускі падарожнік і натураліст. Сапраўдны член Рускага геаграфічнага таварыства (1864).

Распачаў некалькі экспедыцый у Цэнтральную Азію. У 1878 абраны ганаровым членам Акадэміі навук. Генерал-маёр (1886).

[16] **ГЛІНКА Міхаіл Іванавіч** [20.5(1.6).1804, с. Новаспаскае Смаленскай губ. — 3(15).2.1857, Санкт-Пецярбург], рускі кампазітар, заснавальнік рускай класічнай музыкі.